1-ый год выданния.

Кошт 3 рублі.

# ВАРТА

Беларускі літэратурно-грамадзянскі, навучно-гістарычны і эканамічны штомесячнік з ілюстрацыямі пад агульнай рэдакцыей Язэпа Варонко.

№ 1. Менск. Кастрычнік 1918 года. № 1.

## I-шы Усебеларускі Конгрэс.



Менскі Местовы Тэатр,
дзе 5 сьнежня ст. ст. 1917 года адчыніуся 1-шы Усебеларускі Конгрэс.

| Бѣлорусскій ежемѣсячникъ „Стража!“ | Białoruski miesięcznik „Warta!“ | Weissruthenische Monatsschrift „Die Warte!“ |
|---|---|---|

Менск. Друкарня Я. А. Грынблята.

# Зьмест № 1.—Содержаніе № 1.



## ТЭКСТ:



## РЫСУНКІ:

I-ы год выданьня.

Менск.

# ВАРТА

Беларускі літэратурно-грамадзянскі, навучно-гістарычны і эканамічны штомесячнік з ілюстрацыямі.

№ 1. Кастрычнік (Октябрь) 1918 года. № 1.

## „На варце!“.

Здзейсьніваючы свае даўно жаданыя лятуценьня — палажыць фундамэнт пад такі орган друку для Беларусі, каторы мог бы зрабіцца нашай нацыянальнай энцыклопэдыяй і у каторым усе пытаньня мамэнта ад палітыкі да сельскае гаспадаркі, ад пісьменнасьці да архэологіі маглі бы знайсьці самае яркае высьветленьне, — я наважыўся у гэты першы беларускі штомесячнік уліць гэты патрэбны для нашае культуры зьмест.

Цярністы шлях беларускага нацыянальнага адраджэньня, яшчэ больш цярністым стаў ён тагды, калі чыста-нацыянальныя пытаньня спаткаліся на дзелі з вузка-палітычнымі,

## „На стражѣ!“.

Осуществляя свою завѣтную мечту—основать такой органъ для Бѣлоруссіи, который могъ бы явиться нашей національной энциклопедіей, въ которомъ всѣ вопросы момента отъ политики до сельскаго хозяйства, отъ литературы до археологіи могли-бы найти самое точное освѣщеніе, я рѣшилъ въ настоящій первый бѣлорусскій ежемѣсячникъ влить это необходимое для нашей культуры—содержаніе.

Тернистъ путь бѣлорусскаго національнаго возрожденія, еще тернистѣе онъ сталъ тогда, когда запросы чисто національные столкнулись на дѣлѣ съ узко политическими, когда враги національнаго воз-

калі ворагі нацыянальнага адраджэньня нашае бацькаўшчыны выказалі яўную непрыхільнасьць і у стасунку да нашага народу.

На страніцах нашага штомесячніка, павэдлуг магчымасьці, будуць разгледацца усе гэтыя тэмы усестаронна. Але час ні жджэ... Рана яшчэ судзіць аб выявах (рэзультатах), якія ні былі бы іх прычыны. Трэба падымаць культуру, даць развіцца маладым узышоўшым расткам, трэба прасьвеціць і усьвядоміць народ і прасьветляць здарэньня справядліва, без сваіх тэндэнцый. Праўдзіваго твару падзей ніколі ні схаваеш, рана або позна народ, калі прачнецца і пратрэ заспаныя вочы, пазнае усю праўду і пакажэ сваім ворагам іх мейсцы!.

Два вогнішчы лунаюць ля нас, дзьве рукі выцягнуты над нашай бацькаўшчынай: с захада ненасытная, усёабхопліваючая рука ястрэба—Польшчы, а з усходу цяжкі казённы кулак мядзьведзя--Велікарасіі. Калі-ж абодвы гэтыя народы, суседнія і блізкія нам па крыві зразумеюць нас і адмовяцца ад сваіх благіх дамаганьнёў: на нашую зямлю, на нашую культуру, на нашэ су-

рожденія нашего отечества выявили свое недоброе лицо по отношенію и къ нашему народу.

На страницахъ ежемѣсячника, по мѣрѣ возможности, будутъ разобраны всѣ эти темы — всесторонне. Но время не ждетъ... Рано еще судить о слѣдствіяхъ, каковы бы ни были причины, вызвавшія ихъ Нужно подымать культуру, растить взошедшие ростки, нужно просвѣщать и освѣдомлять народъ и освѣщать событія безпристрастно. Ибо истиннаго лица событій никогда не скроешь, рано или поздно проснувшійся и прозрѣвшій народъ узнаетъ всю правду и врагамъ своимъ укажетъ ихъ мѣсто

Два огня пылаютъ около насъ, двѣ руки занесены надъ нашимъ отечествомъ: съ запада ненасытная, всеобнимающая рука—ястреба—Польши, съ востока тяжелый казенный кулакъ медвѣдя — Великороссіи. Когда оба эти народа, сосѣдніе и родственные намъ по крови, поймутъ насъ и откажутся отъ своихъ недобрыхъ замысловъ: на нашу землю, на нашу культуру, на нашу совѣсть, на нашъ трудъ, на нашу свободу?!..

мленьне, на нашу працу, на нашу свабоду???..

Хто іх ведае!? Ніколі яны ні былі нам сваімі. Трэба быць на варце! Трэба памятаць аб нашым нацыанальным багацьці, аб славе нашых прадзедаў, аб нашым гаротніку—народзе. Трэба абыйсьці усе куточкі нашае бацькаўшчыны,—прыслухацца да гутаркі хат і палёў, і гдзе хоць на хвілінку заціхнець беларуская песьня, гдзе забудзецца аб беларускай нацыанальнай справе, там крыкнуць:—Варта! Уставай!!!...

**Язэп Варонко.**
м. Менск.

Кто ихъ знаетъ!? Никогда они не были намъ своими. Нужно быть на стражѣ! Нужно помнить о нашемъ національномъ богатствѣ, о славѣ нашихъ предковъ, о нашемъ страдальцѣ—народѣ.

Нужно обойти всѣ уголки нашей родины,—прислушаться къ говору хатъ и полей и гдѣ хоть на секунду замретъ бѣлорусская рѣчь, затихнетъ бѣлорусская пѣсня, забудется о бѣлорусскомъ національномъ дѣлѣ, тамъ крикнуть:—Варта! Вставай!..

**Іосифъ Воронко.**
г. Минскъ.

## Сучасная беларуская пісьменнасьць.

### ВАРТА.

Ад века ў век ад года ў год
Прарок заве: «Устань, народ!»
Гавора сьмела і упарта:
«Ідзі, ідзі, на варту!»
«Пільнуй свой скарб, пільнуй свой дух
Ад розных бед, ад завірух!
Сыны твае у моцным гарце
Нехай стаяць на варце!»
«Вартуй сваей зямлі мяжы,
Каб не прыйшоў да іх чужы!
Як хтось варожа загамоніць,
Дык варта хай бароніць!»

«Як хто душу тваю рване—
Аб мове скажа: „кінь яе,
Дам лепшую табе ў замену“—
Выходзь ты, варта, на арэну!»
«Гэй, варта, стой у зброях ў полі!
Ваюй за праўду і за волю!
Да новага жыцьця заві
Усіх сыноў сваей зямлі!».

**Ясакар.**
М. Менск.

# Беларуская зямля.

Сыноў гукае, кліча сход
Маць - Беларуская зямля:
«Устань, пакрыўджаны народ
«Ідзі на родныя паля!
«Лугі акопамі прарыты,
«Людзкімі трупамі пакрыты ..
«Усюды горы-курганы,
«Лясы крыжоў гусьцей, гусьцей...
«Крычаць-галосюць груганы
«На грудах куляў і касьцей».
Зямля гаворыць, бы жывая:
«Да працы, шчырыя ратаі!
«Пара і сеяць і араць.
«У ціхамірнай працы жыць,
«У сярпы мячы перэкаваць,
«Балючы раны загаіць!
«Пара адбудаваць руіны
«Па акрываўленай краіне.
«Гэй, Лях і Рос, тут ваш прымус
«Ні можэ істнаваць ні дня:
«Тут гаспадарыць Беларус,—
«Тут Беларуская зямля!».

**Ясакар.**
М. Менск.

# Многа зорак...

(Пасьмертны верш).

---

Многа зорак ў небі ясных
Незлічыць ніколі,
Мала дзён у жыцьці шчасных—
Нешчаслівых болей.
Пагляджу на зоркі ў ночы
Радасьць там і воля...
І заплачуць слязьмі вочы
Ад нуды ды болю.
І так трудніньа жыць стане,
Хоць завый з ваўкамі..
Ах, ці скора доля зьяне,
Запануе з намі!...

**Ф. Калінка.**
з. Вінцэнтово.

1915 г.

# Патаемное.

Апавсданьне М Гарэцкаго.

---

—Гу-гу-гу,—загудзела глухая пушча, заракатала, заківала макушкамі.

—Ку-га! Ку-га! -закугакало нешто страшное. Ці русалка там гуталася на гібкай і гнуткай галіне і пела, сумувала аб нечым мінуўшым, сэрдэчным. Ці мо' сава гукала да сябе дуракаватаго зайку.

—Жгу-жу-жу...—гаманілі лісьцікі на бярозах і з балючай цікавасьцю і з вялікай жальлю і страхам слухалі спрадвечную гутарку лісточкаў асіны, што бэз надзеі і спуджэно, як у трасцы, трэпыхаліся і ціхо казалі пра страшнаго Юду. Заікаюцца яны, трасуцца на родных сучочках, ня ведаючы спакою ад праклятае думкі спрадвечнае: „Хры... Хры... Хры...—калоцюцца яны,—Хрыста пра...пра—даў“...

—І і на асі-іні задаві-і-іўся,—засвістаў вецер і спудзіў дробные лісточкі нішчаснай асіны.

—Го-го-го-эй!...—зазлуваў вецер, што ні пускаюць яго дружныя дрэвы у сваю сямью. Кінууся ён як шалёны, на старога дзеда лесавога, на магутны, карэнасты дуб. Думаў знецяйку бэхнуць яго на бязконцае. бяздоннае балото, што цягнулося ў непраходны лес, німа ведама куды.

—Ня руш!—толькі і прамовіў магутны дуб. Кінууся на адзін момэнт да багны і ўзноў выпрастаўся. Абправіў сваё каравае суччо. І зноў загадаўся аб старадаўных лепшых часох, калі пад ім маліліся людзі і баранілі яго, акветчалі яго славай і хвалай і ні падпускалі чужынцоў, і шукалі пад ім адказу на свае загадкі, і клятвы пад ім давалі.

—Мінулася, прайшло... Ні гарыць свяшчэнны агонь нада мною.. Німа сівых старых дзядоў. Адзін астаўся, адзін, адзін,—агарнула туча векавы дуб, што быў старэйшы за усіх у ва усім лесе.

* * *

Шпарко бегаіш ты, шэры воўк! Дуж ты на ногі, ходак на бягню, цягуч у дарозі. Але дарма... Бо не аббегаць табе, скараход-жывадзёр, за ўвесьваўчыны век твой, усіх абшараў старонкі нашае, ні пратаптаць сцежачэк па усіх лясох нашых драмучых. Не! Блудзіш і ты ў машкох-купінках нашыіх!

І ты, буўцян магутнакрылы, бусел чорнагуз! бачыў ты піраміды фараонаў эгіпецкіх, у шкляно бліскучай, люстэрнай вадзе Ніла гістарычнаго, глядзеўся ты, прыгажун. Праз нашаго прадзеда, Дуная многаводнаго, ляцеў ты, доўганогі, і многа старонак з рознымі людзьмі ні нашскай веры, і гаворкі, і аблічча відзеў ты. Алі,—дарма! Бо ніколі ні выхадзіць ні табе, ні буўценятам тваім балот нашай зямелькі, Ніколі не накрасавацца табе бязконцай і ніабгляднай удоўжкі і ушыркі пекнай устужкай палёў нашых разнакалёрных, нашых лясоў зялёно-сініх, нашых рэчак ціхаводных, што вербалозам ды краскамі, як каралямі прыпаднымі, абпраўлены.

Бліскаіш ты, маланка—бліскаўка, скрозь усё небо Божае бліскаіш, аж с края у край. Зверху у ніз разсекаіш ты,

ні угледзіць калі, аграмаднае бяздоньня нябеснае. А дарма... Бо ніколі ні асвяціць табе адразу старонкі нашае патаемнае.

* * *

Аж стогніць сяло; аж ваўкі у лясу выюць, пудзюцца—дзівюцца; ажно птушкі на нач цёмную супакоіцца ня можуць—так гукаюць вясельле у дварэ старога Янкі.

Едынаго—прыгожаго, сына, любаго, Васіля свайго жэніць стары Янка. І ні шкадуюць на вясельлі крэпкай старасвецкай гарэлкі; ні жалеюць аўса таўковаго коням паездзжан, што бяз ліку з усяе Амсціслаўшчыны, Галыншчыны і Гаршчыны зьехаліся к паважнейшаму сярод радні, заможнаму, ганароваму Янцы Славновічу.

Ходзіць ён, белавусы, у кужэльнай кашулі, пэрсідзкім паясом падперазаны; ходзіць—ні хаваіцца сярод шумных госьцікаў; спахваля, по-старыннаму, ён робіць усё, частуіць радню, суседзяў, сябраў, знаемых сваіх і усіх, хто прыехаў, прыйшоў, хто патрапіў толькі на вясельле тое.

Паходзіць, паходзіць і нінарокам зірнець на кут, дзе сядзіць князь малады, Васілька яго даражэнькі с княгінею сваею чорнавокаю, прыгожай Ганначкай. Ах, пара! Мусі, радуецца сэрцо у старога Янкі, што дажыў такога часу. Мусі, ласкочыць яго пад ложэчкай млосно—лёгкае абурэньне радасьці. Мусі, шчырую падзяку пяе Богу душа Янкіна.

А пойдуць скокі за скокамі. Пяюць свашкі песні свадзёбныя, шчырыя, як сама старына. Водзюць танок маладыя разьлічны. Паддае музыка жалю, і адвагі, і бодрасці, і сумнасці рвецца сэрцо чагось Думы лецяць дзіўныя.

Скачуць—гуляюць на вясельлі... Адусюль зыйшліся, зьехаліс людзюхны нашыя.

* * *

Гуляюць хлопцы і дзеўкі, дзяды і бабы, а не рано, ужо цямнеіць на дварэ, змрочыць на небі,—цёмная ноч на зямельку йдзець.

Завылі сабакі жаласно за сялібамі. Гаркнуць нівесь у які бок, німа ведама на каго, ды шмоўк!—у пуню з гарканнем хаваюцца ці бягуць куды, гдзе больш людзей.

Кудкудакаюць курухны на куросадні, мусіць чуюць што для сябе ды нядобрае!

А сонейко нізенько —нізенько. Пагода была ладная, самая ладная, а пачынаіць нешта псавацца бардзінько. От зайдзе—закоціцца краснае сонейко за цёмны лес, за буйны бор і за ціхі гай. Закоціцца ў хмарках—болачках, і будзе на раньня буйны дождж. Ды калі-то шчэ тэй дзень заўтрашні, дзень сьвяты, а цяпер-то во суніцца ночка страшная, ночка таёмная. Зацьвітуць краскі дзіўныя, папараць заблішчыць, пабягуць агні, заклятыя грошы з зямлі выходзіць пачануць, тэй свет занеспакоіцца.

—Ходзіць нешто невідзімае па зямле за гумнамі, за людзкімі лазьнямі,—кажыць старая бабуля.—Пахаваюцца лісічкі у пяшчуры свае, ваўкі ў ямы свае ваўчыныя, мядзьведзі—ў логавы, а людзюхны ў хаты асьвячоныя.

—Ні кажы ты, бабка, ні кажы ты, любка: страшно мне, —гаворыць маладуха Вулльянька:—і трэба ж нам, трэба дамоў ехаці у такую ночачку страшную. Дзеткі дробныя нас — бацькі, маткі—праждаліся; а ці напіліся яны там, ці наеліся? Ці нарвалі стракіркі джгучае, стрыкастае у вароты на ноч папаіць? Ці нарылі дзядоўніку ды асінніку, ці паілі скацінку? Казала я ім ды паказывала... Што ж яны—шчэ піскляткі ніразумныя! І грамніцу-свечачку у крынцы у ражок паклала,—ці знайшлі-то яны, ці Богу памаліліся, забарані іх, Прачыстая. Мало даюць малачка кароўкі мае бурыя. Ці мальско і лі нашаго боку ёсьць усякіх людзей. Есьць з вачамі чырвонымі, чараўніцкімі. .

Так жаліцца, сумне маладуха. Дось ужо і песьні пець старасьвецкія. Ні да гўлькі тут, ні да вясельля ёй.

Брэшуць, выюць сабакі. А каровы с поля йдуць—вядзець перад чорная. Ды й ня ўсе, мусі, каровачкі дамоў ідуць: пазасталіся у лясох на такую ноч. Закацілося чырвонае сонцо.—Дж, дж,—жук загудзеў. На захадзі хмара чорная, нізвычайная павісла, вісіць, падыймаецца.

—Тру-тру—гу-у..—гудзіць па лясох, па махох, па багнах нівыходжаных труба берэсцяная. Клічэ, гукаіць жывёлін з лесу,—толькі жудзі паддае.

І адразу пачулі ўсе, што па дарозе йдуць, па шляху, с—пад гайка, за сялібамі, ідуць і песьню пяюць нібы старцы якія, нібы гулякі заядлыя, безгаловыя. Не, стой! чу? што?.. ліра чутна старэцкая і песьня смутная казацкая. Не ні песьня то казацкая: псальма старэцкая:

А род засмучоны,
Ад Хрыста ён адлучоны...

Усякія бываюць старцы... Можа то й ні старцы, а старцамі ідуць

Ходзіць нешта за гумнамі...

* * *

А па ўсей Амсціслаўшчыні, Гаршчыні, аж у канец Галыншчыны цягніцца цёмны лес.

Імшары ніпралазныя, бярлогі звярыныя, званы падзёмныя, сьпевы сьвятыя пад зямлёю у скляпох старадаўнішніх, княжэцкіх, пахаваных там ад вока людзкога на векі-вечныя.

—«Го го-го»—гудзіць у ноч глуха-немо цёмны лес. Скрыпаюць дрэвы хворыя, бахаюць вобземь з гукамі жудкімі. Стогнуць старыя дзяды лесавыя. Рыскаюць спуджэныя зьвяры, уцекаючы ад новага чалавека ды шчэ больш смуцяць глухі, смутны лес. Пачаў адбівацца ад лесу новы чалавек. Ні прыходзіць ужо пад дубы тысяцачагадовыя, многабачыўшыя, пытацца аб долі—нядоле старонкі роднае.

Стогне лес...

Зарастаіць багно. Дарма, што пільна так беражэць яго лес да часу астатняго. Адылі шчэ цурчаць лясовыя цурочкі, цуркі і цэлыя ручаі халодныя з Лоз Савіных, Машкоў Салаўіных, Залужжа, Чартаўшчыны, Гайка і Бора Шчыраго.

Прыгожэ там у вясну, калі дрэвы у ва ўсё зялёнае убіраюцца, ў апраткі дзіўныя паадзеваюцца. калі аборкі у лядзі красачкамі мілымі, пахучымі і кволымі усцілаюцца. Калі лозы срэбнымі пушыстымі пупышачкамі сівымі манюць да сябе дзікіх пшчалак з усіх бакоў. Калі паветрэ цёплае, лёгкае.

—Я-куб! Я-куб!—сумуіць голасна зязюлечка. Ды ні просто зязюлька то шэрая: у даўныя часы тое здзеілося, што матка ў зязюлю абярнулася і с тых пор чэкаець да сябе сына Яку-

ба.. што украў яго Паганы Цмок, страшны змей, і занёс у няволю, у царство сваё падземнае, падводнае.

—Я тут! Я тут!—чуецца ёй знеткуль здалеку; другая зязюлька, можа сын родны. І шчэ званчей—гучней нясецца па ўсяму лесу кукуваньне безнадзейнае. Хораша тады у цёмным лесе

А страшна там у восень цёмную, калі лес стогнець, а ваўкі выюць і скігочыць німа ведама хто. Быццым душаць каго быццым ведзьмакі хаўтуры спраўляюць па ком. Жуда вялікая паднімаецца, валасы на галаве дубцом становяцца

На Купальле-ж там, над возерам, пад бярозамі стромкімі, з высокімі макухамі ды галінамі доўгімі, гібкімі пачынаюць гутацца русалкі, белацелыя с косамі чорнымі, вачмі маркотно шалёнымі.

— Гу-у-та! Гу та-шы! Гутарэ-элі!—крычаць яны і чукаюць хлопца прыгожаго, мужчыну слабавольнаго.

—Мэ, мэ, мэ,—равець там каланіца нячыстая, нібы ўсамдзеліжны баран-птушка.

—Сюды, сю-ды!—савою хтосьці вабіць.

* * *

Паціхеньку бяжыць конік вараненькі. вязець куфар з жаною—маладухою, Вуллянкаю тужліваю, з вясельля таго.

Палягеньку у цямноці ляпаюць калёсы на карчох, што распаўзліся вушамі па дарозі ад дрэў. Прахалодай начавою прыёмно абвеваіць голавы после хмелю—віна. У мужа у вушох дрыкчыць іішчэ музыка вясёлыя галасы гэмонюць там. Пашана, і розум, і хмель бродзіць у галаве. А маладая матка аб дзетках думала, сціхамірылася пасьля клуму таго, заснула паціхеньку ці дрэмаць пачала... Цьвітуць краскі у лузі, паволі калышуцца Стракочуць стрыкацікі. Лі арэхавых кустоў суніцамі і грыбамі тхне.

Вясёла наўкола.

І разам сумно. Хата. Штось ніладнае робіцца там. Стары паміраець. Квохчыць старая, слёзы, як боб, коцюцца. Паміраець дзед І трапіло кананьне пад самае Купальле ці іішчэ якую ночку страшную. Ні дарма тое; ой, ні дарма.

Ці ні ў гэтай хаці вясельле было? Ці ні тут, гэтта, танок вадзілі?

Стогнець цёмны лес. Паціхеньку пляцецца па дарозі карчавой конік вараненькі. Ахалодай лесовой абдувае.

Сумно у хаці.

—Яначка, даражэнькі мой,— нізвычайнай ласкай адбіваюцца словы старой. Моліць. просіць яна свайго старога, ніўгаворліваго — прывязём папа... Спаведайся ты.

Як стары корч, чорны і страшны, качаецца стары на падлозе.

—К ліхой гадзіне с папом сваім!

Сумны, як хмара, ходзіць па хаці сын малады, сын бацькі-чараўніка. Завёў ён дзетак у другую хату і жонку кінуў там. І пtriставіў бараніць іх старого батрака Езку. А самого аж трасца трасе. Што-то будзець? Жывуць яны у лясу аднадворцамі.

—Гаў-у-у,—с трывогаю выець сабака у пуньцы сваёй. Выбяжыць і зямлю капаць пачынаець. Напужаў маладуху з дзеткамі. Пад самым вакном завыў.

Сонцэ сядзець—бацька сканае.

—Вэк! Здохні ты,— ні маючы злабы да Разбоя, крыкнуў сын. А той вые, аж кроў у жылах стыгніць.

Ляжыць стары на лаўцы, ад сьвятых абразоў водаль верніцца. Счарнеў, як смуж. І зубамі скрыгочыць ад мук прадсмертных. Людзкія слёзы адрыгаюцца.

Падойдзе часіна, і зьявюцца нячысьцікі са сваімі відэльцамі па душу.

Раюцца — радзюцца матка с сынам каго паслаць па свяшчэніка? І куды паслаць?

—Гэй, вы... хадзіце,—чукаіць смяротнік такім голасом, нібы пілу хто напільнікам зубчыць;—прышліце мне нявехну, і дзеткі ніхай прыдуць сюды, унучкі мае

Спахмурнеў Васіль. Заблішчэў вачмі спадылба. Ніпрыхільно на бацьку зірнуў.

— Папа трэба прывезць табе, калі смерць чуеш сваю.

— А, дык так!—скрыгнуў чараўнік-смяротнік і на сына вочы павёў, зубы гнілыя — чорныя ашчэрыў; — нясіце вон абразы, ато ні памру я...

— Што то, што то выдумаў ты, стары?—залепетала ста-
рая:—гдзе душа твая апынецца і пачала паклоны біць.

Як шалёны, як адурэўшы, як ніўспадзеўкі падпечэнь
ускочыў з лаўкі чараўнік, гарбаты, кульчавы, валасы я
памяло.

Кінуўся, скочыў ён да абразоў і схапіў сярэдні абра
Госпада Саваофа. У мамэнт ірвануў і размахнуўся, падня
над галавою высоко...

Зьбялеў сын, як папера. Анямела, сунулася на зямлі
старая, самлела.

Сіняе полымя сягануло з воч чараўніка. Завыў бешэн
Разбой на дварэ.—Гру-ру-ру...—загрухацело у вушох, бы
цым каменьня пасыпалася з гары.

Прачнулася маладуха, так трахнуло калёсы на карчу.

З лесу выежджалі. Халадком прыемно абвевал
І ні магла прыпомніць маладуха, што ёй снілося, чаго млеі
ішчэ душа яе? Парваліся тыя ніткі патаёмныя, што была
родным Цёмным Лесом зьвязана, са спрадвечнымі засн
ваны; парваліся ці схаваліся.

— І я быў задрэмаў,—муж казаў. І сніліся тыя старц
усё, што на вясельле заходзілі (к шчасьцю — прымечаюць
Прыдаецца ж ліхо. Нібы-то ліра йграла, аж то коло скрыч
ло: сухаватыя грыбы на падмазку учора папаліся.

Млела душа. Ранне. Сьвятлеіць. У галаве хмель сціха
Цёмны Лес — нямы асілак сцяною зубчатаю адздзі стаіць.

**М. Горэцкі.**
м Смаленск.

## Нацыянальная энцыклопэдыя.



**Броніслау Эпімах-Шыпілло.**

Сярод немалаго ліку дзеячоў беларускаго нацыянальнаго адраджэньня—асоба Броніслава Ігнатавіча Эпімаха-Шыпілло спатыкае вялікую павагу і пачот сярод самых рожных гурткоў і партый.

Карысьць працы «старого дзядзькі з Суполкі» не можэ быць адразу падрахавана. Адно толькі можна сказаць пра Браніслава Ігнатавіча, што гэта—летопісец і вартоўнік беларускаго руху, скарбнік беларускай культуры. Яго вагромністая бібліотэка у Пецярбурзі і багатые збёры рожных матэрыялаў, датычачых нашай роднай справы - можэ быць бэз-супрэчна названа нацыянальным скарбам.

Імя Брэніслава Ігнатавіча адразу стало вядомо беларускай інтэ-ігэнціі, калі у пачатку гэтага сталецьця пры яго блізкай помачы зало-кана была у Пецярбурзі беларуская выдавецкая суполка «Загляне онцэ і ў нашэ ваконцэ», а за тым ужо ўсюды яго рука і воко было а ўсіх культурных беларускіх гуртках Пецярбурга і Вільні.

Паходзіць Броніслаў Ігнатавіч з фольварку Залесьсе, Лепельскаго павету, Вітэбскай губэрніі. Скончыўшы Унівэрсытэт, Броніслаў Ігнатавіч адначасьне застаўшыся Віцэ-бібліотэкарам Пецярбургскаго Дзержаўнаго Унівэрсытэту,—састаіць лекторам грэцкай мовы у Рымска-Каталіцкай Духоўной Акадэміі, лекторам лацінской мовы на агульна-навучных курсах А. С. Чэрняева (дзе вучыўся пад апекай Б. І. Эпімаха-Шыпілло вядомы наш паэт Янка Купала). Апроч таго цяпер Б. І—ёсьць Старшынёо вышэй помяненай выдавецкай суполкі, старшынёю «Таварыства ізучэньня культурна-промысловаго стану Беларусі» і чынным сяброуком Вітэбскай Вучонай Архіўнай Камісыі.

У нашы дні Броніслаў Ігнатавіч жыве у Пецярбурзі, слывучы там адным аўтарытэтным „беларускім Несторам“, да якого ідуць за парадай, чы помаччу ўсе, у ком гарыць беларускае сэрцэ.

**Ант. Саросек.**
м. Менск.

# Юморэскі.

* * *

Я дачуўся, муж памер?
—«Так памер, мой пане».
—А чаму-ж бы ні пазваць
Дохтара заранѣ?
—„Не, паночку, нам на што,
„Мы ні вымагаем:
„І бэз дохтара ўсе тут
„Неяк паміраем“.

* * *

**З польскаго.**

Ні раз людзкія чуў я зданьня
І імі з вамі тут дзялюся,
Што ўсе дачкі мае да званьня,
Як анёл пекны;—ні хвалюся,
Хоць зданьне ўсіх суседзеў з сёлаў
Шмат сэрца бацькава ласкочэ,
Ды што з таго, калі анёлаў
Ніводзін чорт узяць ня хочэ!

* * *

Залаценька, дарагенька, мілая Катрына,
Дайся раз пацалаваць,—стаў прасіць хлапчына.
А Катрына ані блізка—дурнем абзывае,—
«Ідзі, ідзі,» кажэ, «дурэнь, хто-ж аб тым пытае,
«Я магла-б табе позволіць, каб ты ні спытаўся,
«А цяпер дык маеш хвігу!... бо ні здагадаўся!».

Альбэрт Пауловіч.
м. Менск.

# Старая беларуская пісьменнасьць.

## З архіву Ромуальда Земкевіча.



**Ромуальд Земкевіч.**

Пекная у нас мінуўшчына. Аб гэтым сведчыць не адзін стары рукапіс не выданых да гэтых пор твораў рожных беларускіх пісьменнікаў. Вядомы беларусазнаўца, гісторык літэратуры і зберач памятнікоў нашай мінуўшчыны пан Ромуальд Земкевіч ласкаве дазволіў нам друкаваць памятнікі старай беларускай пісьменнасьці. Мы рады іх апублікаваць, каб ўсе ведалі—што у нас было і што дзеля гэтаго павінно быць.... Увагі да ніжэй друкаваных рэчоў зроблены самім гісторыком.

**Рэдакцыя.**

## Ясьне Вяльможнай Пані Арэшчысе.

Гдзе-ж нам парывацца—
З мудрымі раўняцца:
Чэсьць аддаць Аўторцы
У простай гаворцы!
Не, ня чэсьць. то мала—
Славу сваім трудам
Сама Ты зьеднала!...
Ты--з пальмай прад людам
Шмат ксенжак пісалі,
Не аб нашым браце:
Лепш чужых пазналі,
Як у сваей хаце:
А нас подлых кмеці,
Міналі з далека
І хавалі дзеці
Ад нашаго вока.
А Ты, пані, сьмела
Заглянула ў хату,
Усё зразумела
І нашаму брату

Працягнула руку
І сэрцам балела,
Глядзеўшы на муку.
І пяром умела
Выліць смутак гэты,—
Што аж душа рвецца,
Што плачуць кабеты,
Не знаюць гдзе дзецца!

Чым жэ мы аддзячым?
Што-ж мы напрыносім?—
Хіба што заплачым,
Ды Бога папросім:
Прымі-ж нашу дзяку
У малітве, ў сьлезцы,
Прымі як азнаку
Тваей славы ў весцы.

**Мацей Бурачок.**

*Увага*: Гэты верш Пранцішак Богушэвіч напісау у 1891 г. на Літэратурны юбілей 25-ці – лецьця працы знаменітай польскай пісацелькі Элізы Оржэшко каторая у сваіх творах вельмі часта апісывала гаротнае жыцьце беларускіх селян, будзячы грамадзянскае сумленьне і дамагаючыся людзкіх правоу для загнаных братоу мужыкоу. У чэсць Элізы Оржэшко быу выдадзены альбом „Upominek Elizie Orzeszkowej“ у каторы гэты верш дзеля забароны цэнзуры ні папау. Аўторцы верш надзвычайна спадабауся і яна вельмі шкадавала, што ён ні мог быць надрукаваны.

## ДОБРЫЯ ВЕСЬЦІ.

Заходзіць сонцэ пагодняго лета,
І веіць вецяр з заходніх нябёс;
Здароў будзь вецяр! з далёкаго сьвета
Добрыя-ж весьці да нас ты прынёс?
Здаровыя ж будзьця! эй добрыя ж весьці:
Там, на заходзі праліваюць кроў,
Бьюцца для славы, свабоды і чэсьці
І робяць вольных людзей з мужыкоў.
Гудзяць вясёла і песьні і танцы
У добром жніве на шчасьлівы год.
Годзі вам, годзі, вы цары-паганцы
Таптаць з балотам хрышчоны народ!
Годзі вам, годзі у яснай карэці,
Годзі чыноўнікі ды ездзіць у двор,
Годзі вам, годзі мужыцкія дзеці
З хаткі астаткі ды браць на пабор.
І панская дзецка і хамская юха
З аднэй кватэркі папіваюць мёд:

І прысягнулі на век, да абуха,
Быць сабе вольны і роўны народ.
Мужык і шляхціц засядзе на лаве,
Каб вясьці раду аб сваёй зямлі;
Як трэба думаць аб грамадзкай справе
На адно мейсца, як браты прыйшлі.—
А як урадзім вайну на грамадзе,
Бараніць дзеткі і зямлю і дом:
Мужык і шляхціц на каня узсядзе,
Касіць касою, рубіць тапаром!—
Эй згінець вораг! Як Бог нам паможэ,
За нашу крыўду, за горкі наш жаль,—
Запяем песьню: «Хваліць Цябе Божэ».
Лягчэй будзе сэрцу,—як згінець маскаль.—
Зямля ты наша, зямля ты Сьвятая,
Радзі нам збожа, ды судзі пажаць!—
Не прыйдзе вораг з маскоўскаго края
На магазыны нашэ зерня браць!—
Ручыць рукою худоба у хаце;
Паны мужыцкіх сьлёз не заберуць—
Мужык з панамі стаіць за пан-браце,
Рука за руку, ды грудзі за грудзь!—
Пяром на карце ды сахой на ніве
Адзін другому роўнасць засьцярог;
Эй у свабодзі зажывём шчасьліве,
Мы будзем дзеткі, а нам бацькай—Бог!

1848 г. **Сырокомля (Людвік Кондратовіч).**

*Увага:* Верш гэты быу ужо раз друкаваны у надзвычайна рэдкай цяпер брашурцы: «Hutarka staroho dzieda». Брашурка памечэна на апошняй страніцы: Paryż 1862 r. Lutego 27 (15) dnia. Друк, шрыфт і папера—конскіе, што вызывало падазрэньня, ці па праудзі брашура друкавалася у Парыжы. Цяпер напэуна можэм устанавіць, што брашура друкавалася не у Парыжы, бо аб гэтым сьведчыць дата новаго і стараго стылю, чаго бы у Парыжы не зрабілі, апроч гэтаго брашуркі гэтай німае «Bibliothéque Polonaise у Парыжы, каторая багата усімі друкамі польскіх і беларускіх эмігрантау. Прыняць трэба, што брашура надрукавана была у Вільні у друкарні Адама Кіркора дзеля таго, што шрыфт такі самы, як на кніжках і газэтах гэтай друкарні. Аутар верша: «Гутарка старого дзеда»—Вінцук Коротынскі, каторы, мусі быць, і друкавау кніжку тайна, памесьціушы у канцы яе верш Сырокомлі. Сын Вінцука Коротынскаго, пан Уладыслау Коротынскі, у Варшаві мае арыгінал верша, пісаны уласнаю рукою Сырокомлі.

# МАЛІТВА.

Божэ, Ойчэ наш і пане,
Плачам, просім лепшай долі;
Доугі годы, як кананне,
Тваім дзеткам у няволі.

Марна воля, марны сілы
Бэз Боскаго прыказання.
Глянь на сьлёзы, на магілы,
Услыш матак нараканьня:

Мы кроў нашу пралівалі,
Маглі дзедаў змыць каране,—
Усе сьлёзы мы аддалі,
Сьлёз на радасць нам не стане.

Божэ глянь: Беларусь збіта,
Маліць аб долі перастала;
Уся сьлязьмі, кроўю змыта,
Спраў каб праз сьлёзы, кроў паўстала!

Сваіх ворагоў яна зможэ,
Пярастане сьлёзы ліці:
Хвала Табе будзе, Божэ,
Што не даў нас загубіці!

Што так будзе, душа чуе
Шэпчэць наша нам пакора:
Беларусь наш Бог мілуе,
Яна ускрэсне і то скора!

1878 г. **Язэп Жукоускі.**

*Увага*: Мала вядомы шырэйшаму грамадзянству беларускі паэта Язэп Жукоускі пісау у другой палове XIX сталецьця. Творы яго друкаваны ніколі не былі дзеля цэнзурных прычын і забароны беларускаго друку. Жыу у Малевічах, Рагачоускаго павета у Магілеушчыні, памер у 1900 гаду. (Глядзі пасмертны успамін (нэкролог) у польскай газэці «Słowo» за 1900 год № 154).

# Беларуская Народная Рэспубліка.



**Народны Сэкрэтарыят I-го Складу.**

Сідзяць з лева на права: Народны Сэкрэтар Прасьветы **А. А. Смоліч,** Народны Сэкрэтар Гаспадаркі **I. Н. Серада**, Рэдактар часопісі «Вольная Беларусь» **Я. Ю. Лесік**, Старшыня Беларускай Дэлегацыі у Кіеві **А. I. Цвікевіч**. Стаіць: Сябэр Народнага Сэкрэтарыяту **А. В. Аусянік**, Старшыня Народнага Сэкрэтэрыяту і Народны Сэкрэтар Міжнародовых справаў **Я. Я. Варонка**, Скарбнік Народнага Сэкрэтарыяту **Б. I. Захарка,** Народны Сэкрэтар Таргоўлі і Прамысловасьці **П. А. Крэчэускі.**

На картачцэ гэтай сфатаграфованы сход 17 чэрвеня 1918 году Народнаго Сэкрэтарыяту з выпадку прыезду Старшыні Беларускай Дэлегацыі у Кіеві у часе яго дакладу аб чыннасьці Дэлегацыі на Украіне. Сход гэты адбыуся у габінэце Старшыні Народнаго Сэкрэтарыяту у старом памешканні на Захароускай вул., 43, дзе была прынята Радай III-ця Устауная Грамата ад 24—25 сакавіка 1918 году аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

# Кручаная баба.

Апаведанне Адама Плуга.

Жыу на сьвеці адзін гаспадар, ды такі бедны: ажно страх, ніхай Бог крыя; але працавіты, справядлівы, цьвярозы і, каліб ня жонка, дык быубы нават шчасьлівы; на нішчасьце у жонцы яго цэлае ліхо сядзело, як гэта, ня тут кажучы, часьценька і бывае у людзей...

Во гэтае-ж цэлае ліхо і сядзело у жонцы; але і была-ж яна шэльмай с пад целнай зоркі! Не кажу ужо таго, што грызла яго бытцам соль у воку, што сакатала яму у дзень і у ноч над галавою, на гэта-ж бабы і родзюцца; але глаунае: ніякаго сэкрэта, крый Божэ! утрымаць ні магла. Што толькі муж зрабіу, што толькі пастанавіу зрабіць, нават што памысьліу, яна ужо усе ведала ды зараз жэ бегла ад хаты у хату ды усім аб гэтым сакатала, дабауляючы у чатыры разы больш, чым па праудзі было. Гэтак і сама мужу прыпасіла павіны ды малола уселякія брэдні: пры сакатлівасьці сваей была яна і надзвычайна легкавернай.

Здарылося неяк адзін раз, што гаспадар наш, аручы поле, пусьціу валоу пасьвіцца на мяжы, а сам пад кусьцікам прылег крыху адпачыць. Глядзіць ажно надходзіць нейкі дзядок з вялікім гаршчком пад полою сермягі ды з рыдлеукай у руцэ. Гаспадар ляжыць бы мертвы, толькі вочы бытцам рак вытарашчыу ды вушы наставіу як заяц. Вось дзядок выкапау ямку, паставіу у ей гаршчок, дый пачау закапываць, кладзючы лапатай хрэсты і балмочучы: «Той хай зможэ узяць усе грошы, хто тут узложыць сем галоу». Закапау, пашэптау ды і пайшоу.

Гаспадар з гэткаго дзіва прызадумауся моцна, а за тым стау чухаць галаву. «Гэй і думае сабе—скуль бы мне узяць гэтые сем галоу? Вось каліб гэтак жонка мая мела іх і семдзесят семь, дык не пажалеу бы іх, а у яе толькі адна галава ды і тая дурная. Як бы тутака парадзіць?»

Доуга гэтак думау, лежаушы да гары пузам ды лічучы хмаркі на небе, а над ім летала цьма авадпеу. Як толькі які з аваднеу сядзе яму на нос, ен зараз яго ухопіць, адарве галоуку і прыгледаецца яму. А то і усадзіушы авадню саломку у хвосьцік, пусьціць яго ды сьмяецца вясёла, гледзючы як авадзень ляціць бы ашалелы высока, высока, пакуль ня прападзе пад небам. Шмат галоу ужо адарвау, многа саломак ужо усадзіу аваднязі, думаючы усё аб сямі галавах; ажно неяк добрая думка увайшла яму у галаву. Скочыу на ногі, дый давай ла-

віць авадпеу; злавіушы іх сем, пайшоу туды, дзе дзядок закапау свае грошы, выкапау іх з зямлі, а кідаючы у яму адна за другой галавы, якіе адрывау авадням, прыгаварывау: «Вось адна галава, вось і другая галава!» І гэтак ажно да сямі. Кінуушы усе, забрау гаршчок, дзе былі адны дукаты-чырвонцы, схавау пад палу сьвіткі і шчасьліва уцек да хаты. Здурэушы з радасьці, сказау жонцы аб сваім шчасьці; а як прыпомніу сабе, што зрабіу ґлупства, кажучы аб гэтым жонцы, падумау сабе: „А ліха-ж яе мацеры! Селі пяцігорцы макам, кабыла порах зьела! Што я нарабіу? Як цяпер на гэта парадзіць?»

Думау дый выдумау. Пайшоу у мястэчка, накупіу пірагоу больш за чатыры капы дый прынес у хату. Капу расыпау на двары, капу кінуу на страху, панатыкау крыху у плецень, дый рештy узяу у хату, шыбкі у вакнах пабіу, а пірагі параскідау па услонах ды па палу. Жонкі не было у хаце, апаведала яна ужо у другім канцы сяла, як гэта муж яе чатыры катлы грашэй знайшоу, чаму, вядома, ніхто веры і не давау. Аблітая потам прыбегаець яна у хату; глядзіць, цэлы двор усланы пірагамі, пірагі па страсе, пірагі у плетню, а хата з пабітымі шыбкамі у вакнах.

«Што гэта?» пытаецца з дзівам.

«Ці ты не бачыла,—адказывае ей муж—як ішла хмара з пірагамі замест града? Зьбірай хуценька каб суседзі не бачылі». Пазьбіралі усе дый схавалі у клеці. Жонка зараз же пабегла з хаты у хаху дый давай апаведаць людзям, як над іх подворкам лопнула хмара з пірагамі, каторых і назьбіралі поуную клець. Варочацца баба дамоу, ажно па дарозе сустрэчаець мужа з гацьцю на рыбы, ды вось дзіва, у гаці чатыры шчукі ды два маладые зайцы.

«Што гэта?» І зноу пытаецца.

«А што,—адказывае муж--паставіу я гаць на рыбы, а Бог дау рыбы ды зайцау».

«Ов-ва!—крыкнула жонка—, вось дзіво так дзіво»!

Зараз і пабегла хваліцца у сяле, што муж злавіу гацьцю у рэчцы дзесяць шчук ды пяць зайцоу. Вярнуушыся позна у вечэр, бачыць, што мужа німа у хаце; урэшця прыбегае ен мокры ад пота бытцам рудая мыш, а у руцэ трымае здор сала.

«Што гэта?» пытае яго жонка.

«Маучы дурная!»—кажэ ей муж на вуха: «Пан улез у клець, дый крау сало, я дагнаушы адабрау, ды шэльму выхвастау як сабаку. Ды глядзі-ж мне, не расказывай нікому, бо была бы бяда!»

Прайшоу адзін тыдзень, другі, гаспадар пабіу сваю жонку за нейкае там ліха. Злуючы на яго, жонка і кажэ: „Пачэкай-жэ, гадзюка! пайду я да пана, усе чыста скажу, як ты знайшоу грошы».

«Ідзі к чортавай мацеры!»

Яна тыкі і пабегла. Пан прысылае за мужыком. Калі яго спыталіся аб знойдзеных грашах, здрыгнуу ён плечыма, пачау хрэсьціцца ды клясьціся, адказываючы: «Далібог ані чуу, ані бачыу!»

«Хлусіць, паночку! брэшэць!—крычала заузятая баба,—знайшоу, далібог знайшоу, у той самы дзень як хмара ішла з пірагамі».

«Ашалела баба!»—кажэ зьдзіулены пан.

«Скруцілася, паночку!»—адказау муж, уздыхаючы.

«Сам ён скруціуся! дзіка крыкнула баба, «знайшоу, далібог знайшоу! у той самы дзень, як два зайцы ды чатыры шчукі у гаць улезлі».

«Што табе, баба? упілася ці ашалела?» пытауся пан ад сьмеха трымаючыся за пузо, каб ня лопнуць.

«Кручаная, паночку!»—сказау муж, ламаючы рукі, «Вось і доля мая, доля нешчасная!»

«Сам ты кручаны!» —крычала бытцам ашалеушы баба, грозючы свайму мужу кулакамі—«Знайшоу паночку! каб я счарнела як зямля, калі не прауда! Знайшоу у той самы дзень, выбачай паночак, як пан са то крау!»

«Нешчасная мая доля, горкае мае жыцьцё!»—крыкнуу мужык са страхам; а пан сьмяючыся, як ніколі у жыцьцю, прыказау бабу завясьці да студні дый выліць ей колькі ведзяр вады на галаву, каб ей глузды прыураціць.

Сноу, 1849 г. **Адам Плуг (Антон Петкевіч).**

*Увага.* Мала хто ведае, што вядомы польскі пісьменьнік Адам Плуг, пісау у сваей моладасці па беларуску. Чытаючы карэспандэнціі Адама Плуга да польскіх газэт у старых гадавіках, спатыкаем вельмі часта урыукі песен, беларускіе звароты і тым падобнае. Залічыць яго да беларускіх пісьменнікау на гэтай падставе было бы несправедліва. Але удалося нам мець у руках беларускі рукапіс Адама Плуга з 1849 года, у якім былі 4 апаведаньня з жыцця народа і адна легенда. Рукапіс быу ахвяраваны пану Эустахію Рдултоускаму, аб чым сьведчыць надпіс: „Wielmożnemu Panu Marszałkowi Eustachemu Rdułtowskiemu, miłośnikowi języka ludu białorusińskiego składa na pamiątkę Autor“. Адам Плуг (*1823—†1903) пісау прозай і вершам. З вершау яму прыпісываюць беларускую легенду „Аб папе з рагамі“. Вучыуся ен у Слуцкай гімназіі, гдзе у той час быу гурток беларусау, з катораго і выйшлі некаторые беларускіе пісацелі і дзеячы, староннікі скасаваньня прыгону. Вышэй надрукованае аповеданне мы даем згодна з тэкстам арыгінала.

# Старасьведчына.

## Ай—Кітаб—Кіцёп.

Стацця вядомаго археолёга І. І. Луцкевіча.

Літоўскіе татары—магомэтане, які дагэтуль жывуць на Беларусі у Меншчыне і Віленшчыне, у пачатку XV веку пасяліліcь у нашым краю. Яны былі вызваны, як успамагацельный корпус войска проціў крыжакоў, вялікім князем Вітаўтом. Пасьля вайны яны асталіся у нашым краю, атрымалі права ажаніцца з дачкамі тутэйшых бояр—шляхты і прынялі ад іх фамілію--прозвішчы, звычаі і беларускую мову; толькі вера асталася магомэтанская. Вось для духоўнай патрэбы татарскіе муллы (мална) арабскімі літэрамі пeратлумачылі на беларускую мову сьвятую кнігу Ай—Кітаб, каторую збеларушчылі у слова «Кіцёп». Гэта кніга сьвятая ёсьць тлумачэньне Корану, яго важнейшых прыповесьці. Знаньне арабскай мовы хутко загінуло, асталося толькі знаўства пісаць арабскімі літэрамі і чытаць яе. Мы бачым яшчэ—праз—два векі XVI і XVII на судовых докумэнтах падпісы татарскіх фамілій арабскімі літэрамі. Учыліся татары доўгі час чытаць арабскімі літэрамі з паменённой вышай беларускай книжкі Кіцёпа. Ужо век XVIII прынёс у татароў уплывы польскіе у граматнасьці і яны, як і ўся беларуская шляхта, пачынаюць чытаць, пісаць і падпісываць докумэнты па польску; паяўляецца ужо ні толькі рукапісьный у XVIII веку Кіцёп арабскімі літэрамі па польску, але і у пачатку XIX веку друкаванный па польску лацінікой цэлый Коран.

Пісаны па беларуску коран і Ай—Кітаб—Кіцёп выходзіць з ужытку і як не патрэбная рэч затрачываецца. Доўго прышлося шукаць яго вучоным і толькі шчаслівы прыпадак давёў мяне да яго у 1915 гаду перед заняцьццем Вільні немцамі. Знайшоў я яго у татарскаго муллы Сцепана

Полтаракевіча у ваколіцэ Сорак—Татары пад Вільняй. Кіцёп гэты складаецца з колькі сот страніц рукопісу, пісанный у канцы XVI, або пачатку XVII веку. Рукопіс не мае пачатку і канца. Дагэтуль удалось часьць яго расчытаць, перэпісываючы арабскіе літэры на лацінскіе—літэра у літэру атрымаўся чысты беларускі тэкст, каторы ніжэй падаю гражданкою.

Стр. 1-ая. „Напрод Божэ іме успамінайма, міласьць у нутрах свайіх уфундуем, першый і астатній он ест векоістый, да кожнай рэчы моцный ніхто ему непадобный ест, есьлі нічога не было стварыў сьветы".

Стр. 2-ая. „Цёмна было, очы сьветласьці не відзелі. Куры не пелі, сабакі не брэхалі, дошч ішоў, цёмна было, вечер веяў. Разумеў, што судный дзень настаў".

Разгледаючы гэтае старое провопісьмо беларускае, пісанае арабістыкай, мы бачым дзьве характэрные асобеннасьці, которых у кірылічным тэксьце старых беларускіх памятнікаў ніколі не спатыкаем, гэто ясны звук *дз*, напрыклад: дзень, невідзелі і т. д. Для гэтаго звука *дз* у арабскай транскрыпцыі істнуе асобое начэртанне літэры д, яна перачоркнута. Так сама другі звук *ць*, напрыклад: цёмна, сьветласьці, міласьць,—у кірылічнай транскрыпцыі, было-бы: тёмна і сьветласті, міласть, а тутака бачым, што звукі *дзе* і *це* ясна пісаліся арабістыкай, так як яны у жывой мове XVI, XVII векоў выгаварываліся. Гэта ёсьць не збурэный доказ, што жывая беларуская мова мае гэтые два характэрные звукі ад найдаўнейшых часоў і што новая беларуская транскрыпція, гражданіцэй і латынікай, зусім правільная, а усе ухішчрэння москвафілаў, каторые не прызнавалі *дзе* і *це*, фундуючысь на убожэстве і беднасьці кірылічнаго правопісма у недахватцэ знакоў для передачы памененых жывых звукоў беларускай мовы *дзе* і *це*, не маюць пад сабой ніякой навучнай падставы, апрача русыфікаторской тэндэнцыі, каторая пры адкрыцьці такого важнаго памятніка беларускаго пісьмэнства, як «Кіцёп», арабістыкай па беларуску напісанаго у далёкай мінуўшчыне XVI і XVII вякоў, сама сабой падае.

**Іван Луцкевіч.**

м. Менск.

# Гісторыя нашай бацькаушчыны.

## Неміга і Менск.

Стацця гісторыка Рамана Суніцы.

Паміж пытаньнямі з дагістарычнай геаграфіі нашае Беларусі, якіе ні раз ужо паднімаліся, ёсьць адно, над выясьненням катораго, дзеля нідахвата пісьменных гістарычных данных, бэзрэзультатна працавало шмат вучоных. Маем тутака на думцы Немігу, гэтую слаўную рэку Немігу, на каторай калісьці адбылася знаменітая бітва Яраславічоў з Усеславам Полацкім, так ярка адмалёвана аутарам «Слова аб палку Ігорэвым».

Імя гэтай Немігі ужо даўно звязывалася з імям горада Менска. Летапісец, паведаючы пад 1067 годам аб ваенных падзеях, якія закончыліся названай бітвай, успамінаючы аб Менску называець і Немігу: . . . . . „си же братья (Яраславічы) взяша Менеск, исѣкоша мужи, а жены и дѣти взяша на щиты, поидоша къ Немизѣ, и Всеславъ поиде противу“.

Разгледаючы даннае свідзецельства аб Немізе, якое трэба сказаць, ёсць едзіным у летапісі, вучоные муселі затрымацца на думцы аб вялікай яе геаграфічнай блізкасьці да горада Менска; дашэдшыя жэ да нас назвы «Неміга», як ручаёк у цяперашнім Менску, так і вуліца, па каторай ён цячэ, прывадзілі нікаторых да перакананьня, што гэты ручаёк і ёсць гістарычная Неміга.

Аднака адзін агульны пагляд на мейсца, гдзе павінна бы быць Неміга, прыняты ня быў: гісторыкі, асабліва расейскія, разыйшліся у дагадках. Адны—як Татішчэў, Карамзін, Арцыбашэў упэўнялі, што Неміга ні што іншае, адно Неман; другіе—як Неволін, Надеждін прынімалі, што Немігу трэба шукаць на поўнач ад Менска—па іх дагадкам гэта—Немоніца каля Барысава, або Немойка каля Сенна. Нарэшце Барсоў у сваіх «Очеркахъ русской исторической географіи» залічае да аднаго і старажытную Немігу і такіж ручаёк у Менску. Польскія гісторыкі, якія асновываліся на традыціях, заусёды прызнавалі Немігу у Менску за тую самую слаўную Немігу, каторая успамінаецца у летапісях. Праўда, польскія вучоныя бралі свае весткі са старых польскіх хронік, рукапісоў і кніжак, як, напрыклад, Нарбут, Крашэўскі, Сырокомля; за імі трымаўся гэтаго справядліваго пагляду і Адам Кіркор. Як ні як большая частка расейскіх гісторыкоў больш склонна шукаць Немігу не у Менску, а далёка за ім. Прычынай гэтаго было толькі ад-

но перакананьне, што сучасны ручаёк Неміга ні мог быць у старых часах больш ці меньш вялікай рэчкай. Другой прычынай, дзеля каторай і трэба было сумлевацца ці старая Неміга і сучасная Неміга адно і тое самае, было паясненьне, каторае з вышэй прыведзенаго намі атрыўка летапісі, выводзіць прафэссар Доўнар-Запольскі. Ен каже,



**Стары Менск.**

(Минскъ-Бѣлорусскій, Минскъ-Губернскій или Минскъ-Литовскій).

Высокі Рынак, цяпера-ка так завомая «Соборная Площадь». У часе Расейскай Рэвалюцыі гэта часць места называлася «Пляцам Волі». Па левай руцэ перэд катэдрай старасьвецi дом, у апошніе часы перэроблены. У гэтым домі за апошніе поугара года адбываліса найважнейшые беларускіе сходы. Да Рэвалюцыі дом гэты называуся «домам Губэрнатора», цяпера-ка ен вядомы пад назвай «дом Рады».

Сфатаграфовано з акварэлі канца XVIII сталецця. Прыватная власьнасьць.

што, «каліб Неміга была у Менску, дык Ізяславічы ужо былі бы на ёй і ім ні трэба было б ісьці «къ Немизѣ»; а дзеля таго, што цяперэшняя Неміга знаходзіцца у цэнтры стараго Менска, дык войска заняло бы яе пры аблозе Менска». Гэта вялікая абмылка, бо стары Менск ні меў у сваіх граніцах Немігі. Невялікі, калі параўнаць яго з

пазьнейшымі размерамі, быў ён толькі апаясаны Немігай, каторая як мы ужо казалі, была натуральным яго рвом. Апроч гэтаго трэба помніць, што мейсцэ, па каторэму цякла Неміга, цяпер зусім ні тое, што калісьці было. У пачатку XIX сталецьця памешчык з ваколіц Менска, Чарноцкі, праз катораго маёнтак праплывала Неміга, перакапаў невялічкі узгорак і скіраваў русло рэчкі у другую старану, а усё гэта дзеля таго, каб дастаць больш вады для млына, збудаванаго пры хфальварку; апроч гэтага прасек гацьцю старае русло рэчкі.

Неміга пачынаецца у палуднёва заходняй старане Менска, каля Медвежына, затым цячэ у кірунку паўночна-усходнім і праплыўшы паміж узгоркамі уплывае у Свіслач. З гэтаго і відаць, што Менск з палуднёва-усходняй і палуднёвай старон зусім не акружэны Немігай. Гэтак і было дауней.

Вось апошняе і ненарокам прыводзіць нас да думкі, што Ізяславічы аблегалі Менск як раз з палудня: дзеля таго, што тут ні было вадзянай перэграды, Менск і быў найбольш даступным з гэтай стараны. Таму у часе аблогі Неміга, пэўней за усё, была свабоднай ад аблегаючых яе войскаў, у кожным разі у глаўнай яе часьці.

Пасьля узяцьця Менска, Ізяславічы, як паведае летапіс, забілі яго абаронцаў; жонак і дзяцей аддалі сваім воям—дружыннікам. Як відаць гнеў Ізяславічоў ні зачапіў будынін Менска—ні яго унутрэнных забудоў, ні яго сьцен,—іначэй летапіс успомніў бы аб гэтым. А раз сьцены кругом былі цэлымі, дык проста за усё дапусціць, што Ізяславічы выйшлі з Менска такой жэ самай дарогай, якой і уварваліся ў яго—праз вароты або праз пралом з палудня. Гэткім чынам, пакінуўшы Менск, Ізяславічы ізноў такі знайходзіліся, хаця і нідалёка ад Немігі, але не на ёй; далейшым іх рухам было кіраваньне да рэкі, аб чым летапіс кажэ: «поидоша къ Немизѣ».

Праўда, тутака можна выклікаць і суперэчкі. Судзячы павэдлуг летапісу, узяцьце Менска адбылося ні пазьней 3 марца, калі Неміга магла замёрзнуць і, само сабою разумеецца, можна было зрабіць аблогу Менска з усіх старон. Але, калі-б гэта так было, калі дапусьціць моцнасць лёду дастатачную для вытрыманьня цяжкасьці нападаючых у такі досць ужо, як ні як, цёплы месяц, дык усётакі выходзіць пытанне: ці зручна агулам было карыстацца Ізяславічам гэтакім спосабам аблогі, займаючы водную паверхнасць рову ды паставіўшы сябе гэтым самым у вельмі нядобрыя варункі у параўнаньні з непрыяцелям, па старане якога былі узгоркі і высокія сцены.

Другая нязгоднасць датычэ вялічыні старажытнае Немігі. Глядзючы на цяперэшную Немігу, міма волі прыходзіцца ні верыць яе славі. Брудная, напоўвысахшая канава, поўная уселякай нечыстаты, вузкая і нікчэмная па свайму выгляду,—ці магла яна восем з лішкам сталецьцяў таму назад быць моцнай і пэўнай апораю Менска, ці магла яна быць вартай успаміну у летапісе? Скэптычны розум ня толькі у факце успаміна у летяпісі імяні Немігі бачыць довад, які ня

йдзе у карысьць сучаснай Немізе; ня мог жэ ніяк летапісец пісаць аб нейкім там марным ручайку. Адсюль і вывад, што старажытная Немiга—адна з рэк дастаточна захаваўшыхся да нашаго часу (Нёман, Немоніца і др.). Але у гэтым вывадзе крыецца вялізарная абмылка.

Ні кажучы ужо аб тым, што адзін факт бітвы ды пры тым, гэткай знаменітай бітвы рабіў імя Немігі, хоць бы яна была і вельмі маленькай, дастойным успаміну,—трэба зауважыць, што праз 800 гадоў магла яна зменшыцца у вельмі много раз. Прымерам другія доплывы Свіслачы, якія успамінаюцца у актах XVI—XVII сталецьцяў за дастаточна поўнаводныя рэчкі, у цяперэшні мамэнт амаль зусім счэзлі, а у кожным разе, ня больш за Немігу. Такая, напрыклад, рэчка Перэспа, якая дала назву цэлай часьці горада, цяпер выяўляе з сябе толькі сухое рўсло. Аднака у 1592 гаду стаялі на гэтай рэчцы два млыны, для каторых, каб іх пусціць у ход, трэба было многа вады*).

Бяручы пад увагу высыханне нашых рэк, каторае пачалося з высекання лясоў і у апошні час ідзе вельмі шпарка, мы, без баязні нарушыць праўду, можэм прэдставіць сабе абраз старажытнай Немігі як рэчку, аднака досыць шырокую і глыбокую.

Што жэ датычэ доўгасьці старажытнае Немігі дык яна зусім дастатачна, каб даць можнасьць варожым князям выпрабаваць сваю сілу на яе берагох.

Прагледзеўшы русло сучаснае Немігі мы прыйшлі да перакананьня, што яна ні толькі ні знаходзілася калісьці у граніцах стараго горада, але і у сучасным сваім выглядзе бярэць пачатак далёка за яго граніцамі. Пачыняючыся у ваколіцах вакзала Маскоўска-Брэстскай чугункі, які знаходзіцца у канцы сучаснаго Менска, цягнецца Неміга агулам вярсты тры, заховываючы пры гэтым усходні кірунак. Ясна, у старажытнасьці, у канцы XI сталецьця яна была больш даўжэйшайчым цяпер.

Вось дзеля таго, калі нават вайска Ізяславічаў, як кажэ прафесар Доўнар-Запольскі, пачаткова і занімалі Немігу, дык выражэнне летапіса «поидоша къ Немизѣ» можна тлумачыць ня толькі як паваротны іх марш да ніжняе, апаясываючай Менск часьці рэкі, але такжа—да сярэдняй і верхняй часьцей, каторыя знаходзіліся ад горада на дзьве—тры вярсты.

У адказ на рух Ярославічоў, Усеслаў, як кажэ летапіс, «пойде противу».

Як вядома падзеі ішлі гэткім чынам. С пачатку Усеслаў пашоў на Ноўгарад, што і вызвало паход Ізяславічоў на Менск. Усеслаў у той час узяў Ноўгарад—«зая Новгородъ», як кажэ летапісец. Пасля гэтаго, як здаецца, дайшла да яго вестка аб аблозе Менска. Прыдаючы важнае значэньня гэтаму пагранічнаму гораду, князь—чараўнік, каторы удзіўляў сучасных сваёй шпаркасьцю, аб каторым песьняр «Слова аб палку Ігорэвым» кажэ, што «тьй клюками подпрься о ко-

*) Ад гэтых млыноу дайшла да нашаго часу зямляная гаць, па вялічыні каторай мы і можэм судзіць аб вялічыні возера перад ею, а значыць і аб дастатачных размерах рэчкі, якая яго напоуняла.

